№ 15 (157). Rok XI. „SZLACH MOŁADZI“ Wilno, 25.VIII.1939.

# ШЛЯХ МОЛАДЗІ
# ŠLACH MOŁADZI

ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ

№ 15 (157). Вільня, 25 Жніўня 1939 г. Год XI

## БОЛЬШ УВАГІ УЗГАДАВАНЬНЮ МОЛАДЗІ!

Сьвет перажывае крызыс палітычны, эканамічны, а такжа крызыс духовы, маральны. Насталі часы, калі сільнейшы бярэ загрудкі слабейшага, прыціскае, накідае яму сваю думку, сваю волю, думаючы толькі аб сабе й собскіх выгодах. Дзеіцца гэтак між народамі, між гаспадарствамі, дзеіцца гэтак і між паасобнымі нават людзьмі. Губляюць людзі прынцыпы справядлівасьці, губляюць усякую этыку. Разьвіваецца прадажніцтва, здрада... Дайшло да таго, што людзі за грош прадаюцца. Прадаюцца ня толькі, як кажуць, звычайныя сьмяротнікі, але вялікія палітыкі, дзеячы, публіцысты.. Прыкладаў на гэта ўсюды поўна. Вось і нядаўна ў Варшаве двух выдатных маладых нацыяналістычных польскіх дзеячоў аказаліся звычайнымі бандытамі, грабежнікамі...

Хваля агульнае дэмаралізацыі дакацілася й да нашае вёскі. Атрымліваем масу карэспандэнцыяў аб пабоях, забойствах, п'янстве сярод моладзі, якія проста прыкра друкаваць. Дзівіцца над гэтым многа ня прыходзіцца. Вёска, моладзь наша, на цесных загонах, без работы, ня маючая сваіх беларускіх культурных, спартовых арганізацыяў, культурных заняткаў, а поўная фізычнае сілы патрабуе дзе-небудзь выладаваць яе, іначай, — падобна як маладое дрэўца, калі ня мае сонца, калі ня мае прастору далей расьці й разьвівацца, —крывіцца, карлавацее, — моладзь гэта нішчыць сама сябе нажамі, каламі і іншымі разбойніцкімі прыладамі. Людзі старыя гледзячы на ўсё гэта, кажуць, што гэта нядобры знак, — гэта знак, што сьвету грозіць нейкая катастрофа, катаклізм. І сапраўды, калі паглядзім на сучасныя падзеі, дык бачым, што сьвет стаіць перад пагрозай страшэннае ваеннае буры, якая можа зьністожыць усё, што напаткае... Магчыма, пасьля настануць іншыя часы, можа кроў, якая будзе заліваць сьвет, зальле, запыніць крыніцы зла, а людзі апамятуюцца, знойдуць згубленае пачуцьцё пашаны чалавека да чалавека, народу да народу. Але чакаць буры із зложанымі рукамі, здавацца на ласку лёсу, ня можна, ня можна тымбольш, што зараза дэмаралізацыі не ахапіла ўсяе моладзі. Ёсьць у нас моладзь сьведамая, культурная, ёсьць фактычна цэлая армія сьветлых культурных працаўнікоў, якія змагаюцца із злом, цемрай, і пры агульным натужаньні гэтую барацьбу выйграюць.

На днях атрымалі мы артыкулы ад беларускіх паэтаў М. Васілька й Н. Жальбы, каторыя стала жывуць сярод вясковае моладзі, бачаць зблізка яе недахопы й праявы прыгожыя, адчуваюць усё душой і чулым сваім паэтавым сэрцам. Друкуем іхнія артыкулы. Артыкул Васілька — гэта голас набалелае душы, якая жадае дабра для свае моладзі, для свайго народу. Васілёк дае нам жудасны абраз, але небезнадзейны, і заклікае ўсіх да большае ўвагі справе ўзгадаваньня беларускае моладзі, не паказвае толькі ўсіх спосабаў барацьбы з дэмаралізацыяй на вёсцы, астаўляючы гэтае пытаньне адкрытым. Выказвацца ў гэтай галіне просім усіх зацікаўленых узгадаваньнем моладзі, самі такжа будзем старацца шукаць аружжа, шукаць выхаду з сьляпога завулка, у які сяньняшнія абставіны сьпіхаюць нашу моладзь. У якой-бы там ня было працы — адыгрывае вялікую ролю арганізацыя й пляновасьць. Але нам, Беларусам, цяжка нават думаць у цяперашніх абставінах аб арганізацыі беларускае моладзі, бо ўсе нашы спробы ў гэным кірунку разьбіваліся аб забароны адміністрацыйных уладаў. Такім чынам уся праца мусіць апірацца на адзінках, але паводле агульна-паказаных беларускіх вехаў.

У першую чаргу, трэба старацца ськіраваць моладзь да роднае кніжкі, да роднае газэты, да працы на беларускай адраджэнскай ніве. Ладзіць выперадкі ў культурнай працы, у чытаньні кніжак, распаўсюджваньні бел. газэт, у ўлепшваньні сваіх гаспадарак, у здабываньні веды і г. д. Выкарыстываць да гэтага трэба ўсе магчымасьці, а нават такія арганізацыі, як Пажарная Страж... Бо мусім памятаць, што культура й асьвета вядзе да лепшае будучыні. Там-жа, дзе моладзі не пацягне кніжка, газэта, там трэба ськіраваць надмерную фізычную моладзі сілу да выладаваньня ў спорце. Кожны хлапец, які быў у войску, знае многа спартовых іграў і можа быць свайго роду інструктарам спорту. Няхай-жа тады паказваюць нашыя «рыцары», што буяняць па вёсках, свой «спрыт», сваю «выжшасьць», сілу пры футбалі, кошыкаўцы, сеткаўцы, у кіданьні куляй, тычкай, у бегах навыперадкі, у скоках і г. д. Не з нажамі, ня з кіямі вёска на вёску, а мясцовымі сяброўскімі спартовымі групамі, дружынамі з футбалям — навыперадкі.

Але на гэты раз кончым свае разважаньні. Аддаём голас нашым песьняром, няхай іхнія

словы, няхай іхняя ацэна прамовяць да шырокіх масаў моладзі, няхай усіх заклічуць, няхай ськіруюць агульную ўвагу на ўзгадаваньне, на прыгатаваньне маладога беларускага пакаленьня — будучыні Беларускага Народу!..

Я. Н.

# Моладзь і праблема будучыні

Моладзь—будучыня, — сказаў нехта і сказ гэты, хоць стары, але праўдзівы й разглядзеўшы яго глыбей—дае заўсёды новыя вялікія ўяўленьні. На бачынах бел. часапісаў, асабліва „Шляху Моладзі", прысьвячаецца многа месца дзеля разгляду ўсіх праяваў, дадатніх і ад'ёмных, сяньняшняга маладога беларускага пакаленьня. І я ў гэтым сваім артыкуле хацеў-бы падыйсьці да гэтай так важнай, актуальнай і балючай справы.

Вось-жа моладзь—гэта сапраўды будучыня, фундамэнт, на якім будуюцца вялікія асягненьні ўва ўсіх галінах грамадзкага жыцьця — нацыі, клясы грамадзянства. Правільна, пільна й дакладна збудаваны фундамэнт — ёсьць зарукай моцы й трывалкасці будыніны, зарукай шчасьлівага й радаснага жыцьця. Аднак трэба ведаць, што фундамэнт не вырастае сам па сабе з зямлі, а творыцца пад апекай, пад даглядам пільнага вока й дазнанае практычнае рукі. Распрацоўваецца плян і часам найменшыя дробязі адыгрываюць вялікую ролю. Трэба тады ўсьведаміць сабе, якая вялікая адказнасьць падае на нас прад будучымі пакаленьнямі, прад гісторыяй, за ўзгадаваньне сучаснага маладога пакаленьня. Ня могуць быць у гэтым апраўданьнем нават найгоршыя абставіны й найзласьнейшыя выбрыкі дзікой стыхіі. Беларускі творчы імпэт ня можа быць стрыманы, а наша моладзь мусіць быць так узгадавана, каб сказ: „Моладзь — наша будучыня" адказваў праўдзе і вясьціў нам лепшае заўтра. І тут мушу закрануць справу найбалючэйшую, на якую хачу зьвярнуць увагу ўсіх паважаных майстроў нашага фундамэнту, а асабліва ўвагу нашай прэсы й нашай моладзі.

Прыкра, але трэба сказаць, што моладзь наша па вёсках і мястэчках, новае падрастаючае пакаленьне, а частка й старэйшага, якую яшчэ захапіў так хутка расквітаўшы, а нядаўна зьліквідаваны бел. культурнаасьветны рух, — гэта моладзь пачынае дэмаралізавацца, прасьцей кажучы — дзічэць. Сяньня гэтае зьявішча можна знайсьці амаль у кожнай вёсцы. Нажы, гіры, гумы і ім падобныя „рыцарскія" прылады, ненавісьць, дзікая, безразсудная буйнасьць, п'янства, брыдкія лаянкі — вось „красачкі", што ўквечваюць нашую моладзь. Адбываюцца вечарыны, на якія па традыцыі прыходзіць моладзь з розных ваколіц, толькі калісь моладзь ішла на вечарыну з голымі рукамі, з добрымі намерамі, пазнаёміцца, правясьці весела час, адпачыць духова, ішла ў агульную юнацкую сям'ю з сьветлымі думкамі прыязьні й дружбы, а сяньня йдзе на вечарыну, ці то ў сваю, ці то ў чужую вёску узброеная да зубоў — з гірамі у кішані, з нажамі ў халявах, з каменем за пазухай, а ў душы поўна жоўці раз'яранага зьвяра. І такое зьявішча становіцца нечым забячым, нечым модным. Зьдзічэньне даходзіць на'т на таго, што тыя адзінкі, якія яшчэ верна й чэсна нясуць свой юнацкі горды сьцяг барацьбы з усебаковымі праявамі грамадзкага зла, барацьбы за лепшае, сонечнае заўтра, тая частка моладзі, якая ня глед[illegible] на ўсякія нявыгоды, усё-ж цьв[illegible] й сьведама ідзе да свае мэты, выконваючы вялікія заданьні, — ведаю, ёсьць такія мясцовасьці, дзе гэтая здаровая частка моладзі спатыкаецца з байкотам і з рознымі прыкрасьцямі з боку розных дзікуноў і асоб нясьведамых. Зьявішча прыкрае, балючае, якое трэба рашуча зьліквідаваць. Спадзяюся, што пры агульных культурных натугах, хоць паступова, але зьнікнуць чартапалохі і ўсякі бруд, што засьмечвае сёньня нашу юнацкую ніву. Спадзяюся, бо маю ў душы пераканаovername, бо ведаю, што не радзіліся й гэныя людзі, што ходзяць з нажамі й каламі, з гэткімі брыдкімі задаткамі характару. Віна тут вялікая прадусім у тых вонкавых абставінах, якія нас акружаюць і якія ня спры-

# Беларускі Студэнцкі зьлёт у Белавежы

Доўгае сужыцьцё ды супольныя справы й зацікаўленьні вельмі зьбліжаюць людзей, асабліва калі гэта людзі маладыя, гарачыя, любяць абмяняцца сваімі думкамі, любяць пажартаваць, папяяць, павесяліцца. Дык ня дзіва, што вельмі зьблізіліся студэнты Беларусы ў Вільні, спатыкаючыся ці то ў розных галінах грамадзкае працы, ці то на таварыскіх і інш.імпрэзах Беларускага Студэнцкага Саюзу. У грамадзе лягчэй жыць, змагацца за свае ідэалы, здабываць асьвету, ці нат' проста праводзіць вольны час. Дык і трымаюцца беларускія студэнты дружнай, зжытай грамадой. Стараюцца трымацца гэтай грамады нават у час летніх фэрыяў.

* * *

15 ліпеня зьбіраліся беларускія студэнты ў Белавежы у парку каля Палацу, на свой зьлёт. Што-раз то нехта прыбываў новы, і сабраная ўжо грамадка спатыкала іх з радасным энтузыязмам. Прыяжджалі студэнты пераважна групамі. Найбольшая была група „паляшукоў" — суседзяў белавескіх зуброў — гэтыя амаль ня выяжджалі з дому, каб трапіць на зьлёт.

Прычэківаючы далейшых таварышоў, зьлётаўцы хадзілі на пошту па карэспандэнцыю: тыя, што не маглі прыехаць, паведамлялі аб гэтым і прысылалі свае шчырыя прывітаньні, а нават пачкі ежы, якія спатыкаліся з большым энтузыязмам, чым прывітаньні!...

Калі ўжо паводле ўсіх вылічэньняў і прадбачаньняў нікога больш нельга было спадзявацца і калі крыху прыціхлі першыя радасныя гутаркі пры спатканьні, пачалі думаць пра больш „земскія" справы. Перамучаныя дарогай целы дамагаліся ежы і трэ' было падумаць аб начлегу. Справа, здавалася, простая, бо-ж у Белавежы ёсьць „схроніско", але аказалася, што цэны там не для нашага брата студэнта. Разбрыліся студэнты пашукаць, ці ня знойдзецца дзе ў мястэчку добрае гуменца із сьвежым сенам. Знайшлося! А ветлівы гаспадар бязінтэрэсоўна аддаў для распараджэньня студэнтаў яшчэ цэлы пакой з кухняй.

Вясёлая, шумная кампанія ўсыпалася на гасьцінны панадворак і разлажылася папасам. Пачаўся рух каля прыгатаваньня

юць беларускай культурнай і асьветнай працы. Моладзь — гэта запал, гэта сіла, імпат, які мусіць выладавацца ў адпаведным, добрым кірунку.

Як выйсьці з жудаснага палажэньня нашага маладога пакаленьня? — Пытаньне гэтае пакідаю адкрытым. Зазначу ад сябе, што наша сьведамая моладзь, якая на вёсках й мястэчках вядзе барацьбу за сьвятло, за навуку, за паляпшэньне свайго сацыяльнага быту, за ўсьведамленьне нацыянальнае, — мусіць абʼявіць і праводзіць станоўчую барацьбу з пʼянствам, разбоямі й іншымі брыдкімі й шкоднымі зьявішчамі нашага народнага арганізму.

Заклікаю адначасна нашую маладую інтэлігенцыю, нашых студэнтаў, гімназістаў, якія ўлетку й у часе сьвяточных канікулаў маюць магчымасьць беспасярэдна спаткацца з вясковай моладзяй, — ладзіць лекцыі, навязваць гутаркі, рабіць усё магчымае, што прычынілася-б да падняцьця маральнага ўзроўня моладзі, да падняцьця культурнага развою сваіх зблудзіўшых братоў.

Заклікаю нашых маладых паэтаў і пісьменьнікаў да барацьбы з гэтай пошасьцю жывым, мастацкім словам.

Трэба біць крытыкай, кляйміць ганьбай тых „рыцараў“ цёмнай ночы, якія ў нашыя часы вялікіх зьменаў і сусьветных падзеяў дэмаралізуюць рады сваіх маладых братоў, лезуць сьведама ці нясьведама ў процьму разбояў пʼянства й усялякіх брыдотаў.

Зьвяртаюся й да тэй часткі моладзі, каторую можна назваць „пасывам“. Яна сьведамая, праўда, яна можа быць нават прыкладам у жыцьці, але-ж глядзець на ўсе выбрыкі дзікуноў моўчкі, быццам паказваючы, што вось, маўляў — добра, што хоць яна не такая... Не, гэтага мала! Трэба ўсім перамагаць нашае супольнае грамадзкае зло!

Многа ёсьць хваробаў, але-ж ёсьць на іх і лекі. Я пераканаены, што й гэтая хвароба нашае моладзі паступова паддасца, мусіць паддацца лячэньню.

Горадзеншчына. *М. Васілёк*

## Культурная праца сьведамай бел. моладзі на вёсцы

Цяжка цяпер агулам жывецца на вёсцы, але ёсьць усё-ж праявы й пацяшаючыя. Адным з найвялікшых няшчасьцяў у жыцьці сялянскае моладзі зьяўляюцца: пʼянства й разбой. Культурныя, больш разьвітыя, сьведамыя адзінкі ў нашай Навагрдчыне ўсімі сіламі стараюцца з гэтым злом змагацца, і вынікі гэтага відаць. У тых вёсках, дзе знаходзіцца хоць адзін чалавек аддаены душой беларускай ідэі, ніколі на вечарынках, вясельлях ці другіх нагодах ня дойдзе да нажоўніцтва, або мордабойства. Ён адзін, як пружына, утрымлівае лад і парадак сярод сабранай моладзі; апрача вясёлых, мілых гутарак і танцаў, чуваць там сьпевы сэрца-кранаючых беларускіх народных песьняў, а такжа песьняў паэтаў-самародкаў, якія асьвятляюць нашае цёмнае жыцьцё. Некаторыя з гэных паэтаў нават не гасьцілі на бачынах беларускіх часапісаў і нявыяўленыя належна гінуць у народных гушчах і толькі вершы іх паложаныя на пародныя мэлёдыі жывуць і заахвочваюць усіх жыць і змагацца із злыбядамі нашых дзён, із злыбядамі цяжкога беларускага жыцьця. Усім гэным ціхім і бязіменным працаўнікам на беларускай ніве, па цёмных беларускіх закутках, няхай будзе чэсьць і слава!

Навагрдчына. *Н. Жальба*

* * *

*Вые да месяца роспач вясковая,*
*бʼецца злоўленай рыбай аб лёд,*
*нэндза стальнымі схапіла аковамі*
*стала жыцьцё —*
*акалот!*
*Рунь ўжо ня цешыць*
*вока мужыцкае,*
*сэрца ня радуе ўжо умалот.*
*Пойдзе усё!*
*будзе хлеб толькі сьніцца ім.*
*Цісьне сяло цяжкі злыбяды бот.*
*Вые да месяца роспач вясковая,*
*цяжкі,кашмарны сяла чорны сон—*
— — — — — — — —
*...Будуць калісь дні!*
*пшанічныя, новыя,*
*прыдуцьу рытме сталёвых калон.*

*С. Хмара*

---

пасілкаў. Паліліся беларускія песьні. Некаторыя-ж студэнты пайшлі аглядаць мястэчка, што прыгожа раскінулася над лянівай рэчкай Нараўкай у сэрцы слаўнае пушчы. Мястэчка невялікае, відаць жыве турыстыкай. У цэнтры яго месьціцца Палацавы парк. Насельніцтва — галоўным чынам праваслаўныя Беларусы. На летні сэзон сюды прыяжджаюць яшчэ работнікі — таксама Беларусы. Адна групка гэткіх работнікаў зьвярнула ўвагу на праходзячых студэнтаў. „Гэта-ж нашыя, Беларусы!“ — пачуўся нейкі горда-вясёлы голас аднаго з работнікаў. Студэнты пацьвердзілі. Завязалася гутарка.

Тымчасам на папасе прыгатавалі вячэру, якая йзноў усіх згрупавала, і — хоць елі ў дзьве зьмены, бо не хапала прыладаў і месца пры стале,—хутка не засталося й сьледу ад „божых дараў“.

Адразу пасьля вячэры памораныя студэнты пачалі ўкладацца спаць. Гуменца аказалася малое й прыйшлося распарцэляваць: адныя засталіся ў хаце, другія палезьлі на пустую тарпу і там спалі на голых жэрдках, нягледзячы на тое, што між гэтымі жэрдкамі можна было зваліцца на спакойных каровак, што ўнізе перажоўвалі корм, трэція разьмясьціліся на сене, палажаным на таку (калі можна ўжыць слова „разьмясьціліся“ у адносінах да палажэньня зусім аналёгічнага да палажэньня селядцоў у бочцы), а адзін аматар сьвежага паветра й прысяжны вораг коэдукацыі заснуў на возе сена пад голым небам, дзе забаўніцы-зоркі цэлую ночку сьмяяліся з яго, міргаючы сваімі бліскучымі вочкамі.

Сталася коэдукацыйна й весела. Сон доўга ня мог змарыць шчасьлівай грамады. На перабой рваліся песьні, прыпеўкі, жарты, апавяданьні. Ды й сена кусалася... Заснулі пасьля першых пеўняў...

Раніцай узяліся за туалету: мыліся, вычэсвалі сена з валос і вопраткі, прасаваліся, чысьцілі боты. А найбольш было сьмеху...

Паказаліся й фатографы: адзін ціханька падыходзіў і нечакана „цыкаў“ сваім маленькім апаратцікам, другі доўга ладзіў сваю „страшную“машыну,устаўляў групу ў адпаведную позу і... апарат яго фатаграфаваў зусім нечакана — і для фатографа і для „публікі“; трэці фатограф больш гаварыў пра фатаграфаваньне, але

# Што на гэта „Т-ва Разьвіцьця Усходніх Зямель“?

Нядаўна (ад 4 да 10 чэрвеня), гучна праходзіў у Польшчы тыдзень, прысьвечаны г. зв. Усходнім Землям. Аб гэтым пісалася й гаварылася вельмі шмат, але, як мы зазначылі ў „Шляху Моладзі“ (№ 12 з 30.VI.39), — гаспадарчае падняцьце нашага краю ідзе вельмі й вельмі марудна. Гэта пацьвярджае, між іншым, Віленская Прамыслова-Гандлёвая Палата, якая апошнімі днямі апублікавала статыстычныя даныя за месяцы кастрычнік, лістапад і сьнежань 1938 г., з каторых, як на далані, відаць гэны „поступ“... І так, калі ўва ўсей Польшчы лік рабочых у прамысловых прадпрыемствах падняўся на 7 прац., у параўнаньні з тымі-ж месяцамі 1937 году, дык у нашым краю толькі на 1 прац. Промыслу на нашых землях, як і няма, ды й той, што ёсьць, не разьвіваецца. Таму відаць недахопы гаспадарча-эканамічнага, а што затым ідзе й культурна-асьветнага характару. Недахопы гэтыя хочуць, відаць, некаторыя польскія кругі выраўняць прыгожа - слоўнай „прадукцыяй“... Але ці гэта што паможа? — Ясна, што не!..

Вёска наша эканамічна ўсьцяж занепадае. Пакупная сіла яе падае, аб чым сьведчаць успомненыя вышэй статыстычныя даныя. Да заняпаду гэтага прычыняецца што-раз далейшае драбненьне вузкіх палосак і хутароў. Людзям становіцца цяжка пракарміцца з выдайнасьці свае зямлі, а прадаць няма чаго. Наш селянін, каб мець сякія-такія магчымасьці да жыцьця, патрабуе пашырэньня сваіх вузкіх загонаў. Можа, і павінна гэта стацца коштам зямель, якія знаходзяцца ў валаданьні абшарнікаў. У сялянскіх руках зямля будзе больш і лепш радзіць, што, бязумоўна, і з гаспадарственнага пункту гледжаньня ёсьць зьявішчам пажаданым і карысным. У чым-жа тады справа? Калі-ж нарэшце наступіць зямельная рэформа? Калі пашырацца сялянскія загоны? І чаму гэтага не дамагаецца Т-ва Разьвіцьця Усходніх Зямель, а пхне ў наш край асаднікаў з цэнтральных польскіх зямель, для якіх няма фактычна ў нас месца, бо мясцовае насельніцтва, асабліва беларускае сялянства, душыцца, адчувае вялізарны недахоп зямлі й ня мае дзе падзецца, бо й промысел не разьвіваецца!..

З.

* * *

*Ўжо ўбогая ніўка дажата,*
*На ўзгорках сухіх і пяскох:*
*Пабрана, што градам ня сьцята,*
*Што дождж у зямлю*
*ўбіць ня змог.*

*І прыйдзе дзянёк той жаданы,*
*Будуць дзеткі ўдалонькі пляскаць:*
*Будзе голад ад іх адагнаны,*
*Будзе весела ім пагуляць.*

*Прыйдзе сьвята, вялікае сьвята,*
*Калі хлеба пачуецца пах, —*
*Стане хата сялянска багата,*
*Й шчасьцем адгоняцца мукі і жах.*

27.VII.39. *Н. Жальба*

**Грамадзяне! Памятайце аб беларускай моладзі і прысылайце ахвяры на дапамаговы фонд беларускім незаможным а здольным вучням і студэнтам на адрыс: Red. „Slachu Moładzi“ — Wilno, Zavalnaja vul. 1—2.**

**Памятуйма, што свая беларуская інтэлігенцыя найлепш дбае аб дабро для свайго Беларускага Народу**



**Зубр — кароль Белавескае пушчы**

рабіў мала. (На зьлёце зроблена каля соткі фатаграфіяў—нажаль, выйшлі яны ня ўсе).

Пасьнедаўшы рашылі паглядзець у зьвярынцу славу Белавескае пушчы — зуброў, да якіх трэба было прабыць прыгожую 9-ці кілямэтравую дарогу.

А тут спаткала маленькае расчараваньне: глядзець на зуброў можна толькі здалёк, з высокіх трыбунаў, а зубры сядзяць сабе ў моцных загарадках і зусім не зварочваюць увагі на глядзельнікаў — паляглі ў пясок і падымаюць хвастамі туманы пылу. Нашы глядзельнікі пачалі абражацца: „Вось там зубры! Звычайныя каровы! Ды яшчэ ў загарадках!“ Аж устаў адзін зубр, абтросься, прайшоўся: „Не, браткі,—гэта не каровы! Сапраўды, кароль пушчы хоць і злоўлены!“ Заварушыліся фатографы—пачалі ладзіць свае машыны, а тымчасам зубр лёг...

Экскурсія наша наглядзеўшыся й нацешыўшыся сваей пушчай вярталася з песьнямі ў мястэчка, куды прыехаў адведаць зьлёт гр. Рыгор Шырма, радасна вітаны.

Па абедзе пайшлі ў Белавес кі музэй. Тут, сапраўды, ёсьць на што паглядзець. У вялікай, прыгожай будыніне сабраныя ўсе матар'ялы, што датычаць Белавескае пушчы і яе жыцьця: птушкі, зьвяры, кузуркі, дрэвы, кветкі, травы—усё гэта сабрана сюды ці то ў форме памастацку зробленых чучалаў, ці то засушанае, ці то сфатаграфаванае. Вельмі цікавы аддзел прысьвечаны бортніцтву: тут сабрана ўсё, што адносіцца да пчалаводзтва ў пушчы; характэрна, што назовы ўсіх бортніцкіх прыладаў—толькі беларускія (пададзеныя ў чужаслове). Музэй зрабіў на экскурсантаў вялікае ўражаньне.

Выйшаўшы з музэю, стварылася „ваенная“ нарада, каторая праз колькі мінут вырашыла, што зьлёт разьдзеліцца й пакіне Белавежу. Частка разьехалася дамоў, а рэшта накіравалася ў іншыя мясцовасьці. Пры тым наша група ў ліку 7 асоб накіравалася з Белавежы ў бок ЛітоўскагаКаменца далей пазнаваць родны Край. Вёў цяпер студэнцкую экскурсію гр. Попко, малады энтузыяст Каменшчыны.

У. К.

# Z žyćcia i pracy litoŭskaje moładzi

Litoŭcy, jak zhodna ŭsie śćviardžajuć, u arhanizacyi svajho haspadarstva, svajho kulturnaha j ekanamičnaha žyćcia prajavili mnoha zdolnaści, starannaści j asiahnuli ŭ hetym vielmi dobryja vyniki. I jany nie spačyvajuć na laurach, a dalej pracujuć nad palepšańniem svajho bytu. Najmadniejšym-ža kličam maładych litoŭskich ziemlarobaŭ jość: „Pierahnać Daniju!", jakaja źjaŭlajecca najpryhažejšym uzoram na ŭsim śviecie ŭ ziemlarobskaj haspadarcy.

Kab byŭ postup i nadzieja na jašče lepšuju budučyniu, źviernuta ŭ Litvie vialikaja ŭvaha na sialanskuju moładź, jaje ziemlarobskuju aśvietu j uzhadavańnie. Z hetaj metaj stvorana arhanizacyja Maładych Ziemlarobaŭ, katoraja supracoŭničaje z Ziemlarobskimi Pałatami. Arhanizacyja Maładych Ziemlarobaŭ maje ciapier kala 1200 hurtkoŭ i 60 tysiač siabroŭ. Vydaje svoj tydniovy časapis „Jaunasis Ukininkas" (Małady Ziemlarob), maje kala 1000 narodnych damoŭ, celuju sietku biblijatekaŭ stałych z ahulnym likam 120,847 knižak i 126 biblijatekaŭ ruchomych (vandroŭnych) pa 50-60 tamoŭ u kožnaj. Na čale hetaje arhanizacyi staić, naznačany prezydentam respubliki na prapanovu ministra ziemlarobstva, staršynia Vladas Tiškus, katory byŭ zakładčykam hetaje arhanizacyi. Staršynia maje svajo biuro j fachovych radnikaŭ. U kožnym paviecie Maładyja Ziemlaroby majuć sabie da pomačy ahranoma j instruktara. Kožny hurtok, apražča vybranaha saboj uradu, maje ŭzhadavaŭčuju radu starejšych haspadaroŭ, u skład jakoje ŭvachodzie 3-5 asob. Siabry dzielacca na dźvie hrupy: małodšaja ad 12 da 15 hadoŭ i starejšaja vyšej 15 hadoŭ. Prahrama pracy škiravana pierad usim na ziemlarobskaje pryspasableńnie, pracu kulturna-aśvietnuju, hramadzkaje ŭzhadavańnie j ručnyja raboty (heta apošniaje asabliva siarod dziaŭčat, lik katorych u arhanizacyi stanović 43 pracenty ahulnaje kolkaści ŭsich siabroŭ). U ramach hetaje prahramy adbyvajucca: ziemlarobskija konkursy, vystaŭki, ziemlarobskija śviaty, hadoŭla žyvioły, konkursy referataŭ, čytańnia knižak, kursy, viečaryny i h. p. Na vystaŭkach i konkursach pryznajucca j razdajucca roznyja naharody. Tak napr. u 1938 h. sarhanizavana było 314 vystavak, na jakich ahułam pryznana naharodaŭ na ahulnuju sumu 45,600 litaŭ, ale naharody hetyja ŭ hrašoch nia vydany, a puščany abo na kuplu ziemlarobskich pryładaŭ, mašynaŭ, abo na pakryćcio koštaŭ krajeznaŭčych i ziemlarobskich ekskursijaŭ. Dla lepšaje arjentacyi ab pracy Maładych Lit. Ziemlarobaŭ padamo niekalki ličbaŭ z ichniaha žyćcia. Voś-ža ŭ 1938 h. hetaja arhanizacyja zładziła: 10,433 sabrańniaŭ, 1,619 imprezaŭ kulturna-aśvietnych, 734 ekskursii, 736 roznych kursaŭ 3 i 7-mi dniovych, 66 kursaŭ 3-ch tydniovych, napisana j pračytana 3,120 referataŭ i prysłana ŭ Centr 6,305 roznych farmularaŭ, na asnovie jakich układajecca plan dziejnaści. Pry tym arhanizacyja mieła 41 arkiestraŭ.



Litoŭskaja sialanskaja moładź u pachodzie ŭ časie svajho śviata

## Lon

*Sińniu łazurnaha nieba*
*lon začvicieŭ na palocha,*
*radaść sialan i uciecha,*
*mroi ab lepšych dziańkoch.*

*Vychodzić araty u pole:*
*ciešyć siń vočy jamu*
*i cichnie bol horkaje doli,*
*bačačy nivu svaju.*

*P. Suško*

---

Pobač z arhanizacyjaj Maładych Ziemlarobaŭ pracujuć: šyroka viedamaja arhanizacyja charaktaru spartova-vajskovaha p. n. „Šaŭlisy" (Stralcy, lik jakich siahaje niekalki sot tysiač), arhanizacyi skaŭtaŭ, a tak-ža arhanizacyi čysta spartovyja. Usie hetyja arhanizacyi źjaŭlajucca ahulna-litoŭskimi, apražča-ž ich jość jašče partyjnyja arhanizacyi moładzi.

Ideolohična litoŭskaja moładź, tak jak i starejšaje hramadzianstva, padzielena na try ŭhrupavańni: 1. „Taŭtininkaj" (nacyjanalisty), 2. „Krikščioniu" (chryścijanskija demakraty) i 3. „Laudininki" (narodniki-ludoŭcy). „Taŭtininki" majuć svaju arhanizacyju „Jaunoji Lietuva" (Maładaja Litva), jakaja naličaje 40 tysiač siabroŭ i vydaje svoj časapis „Jaunoji Karta" (Maładoje Pakaleńnie). Arhanizacyj „Krikščioni'aŭ" jość „Lietuviu Katoliku Jaunimo Pavasario Federacija" (Federacyja Litoŭskaje Katalickaje Moładzi „Viasna"). Maje jana 70 tysiač siabroŭ i vydaje dla dziaŭčat časapis „Liepsnos" (Połymia), a dla chłapcoŭ „Vyru Žygiai" (Hierojstva). Partyja „Laudininkaŭ" svaje arhanizacyi moładzi ciapier nia maje, ale vydaje časapis „Musu Jaunimos" (Naša Moładź) i pašyraje svaje ŭpłyvy j na maładoje pakaleńnie.

Z hetaha karotkaha ahladu bačym, jak dobra sarhanizavanaja litoŭskaja moładź i jak jana pracuje. Majuć hetyja arhanizacyi j mohuć u ich pracavać maładyja Litoŭcy dziakujučy tamu, što isnuje ichniaje niezaležnaje haspadarstva. My, maładoje biełaruskaje pakaleńnie, u Polskim Haspadarstvie, z niezaležnych ad nas pryčyn, nia majem ni adnaje svaje arhanizacyi sialanskaje ci rabotnickaje. A treba viedać, što Biełarusaŭ u Polskim Haspadarstvie jość bolš, čymsia ŭsiaho nasielnictva ŭ Litvie...

*j. n.*

## „Песьні на загонах"

На беларускай літаратурнай ніве ажыўленьне. Нядаўна вышаў зборнік вершаў С. Хмары, надовячы паявіўся зборнік маладога беларускага паэта Анатоля Іверса п. н. „*Песьні на загонах.*" У друку знаходзіцца зборнік Міхася Машары. Падгатаўляюцца-ж да друку зборнікі: Н. Жальбы, Ганны Новік, П. Граніта, байкі Вінцука Адважнага і інш. Жадаць толькі трэба, каб беларускія выдавецтвы змаглі й пасьпявалі выдаваць іх.

Зборнік А. Іверса невялікі, 32 бачыны, з прыгожай вокладкай, выкананай мастаком Ул. Дрэмам, і падабізнай паэта; выданы выдавецтвам „Калосьсе", а каштуе ўсяго 55 гр.

Вершы Іверса стройныя, лёгкія, мэлёдыйныя. Тэматыка іх пераважна зьвязаная з жыцьцём вёскі, з шумам жыта, паплавамі, соснамі, роднымі малюнкамі, роднай нівай, загонамі. Гэта сапраўды песьні на загонах. Паэт выходзе на поле, на безбярэжныя прасторы, на пракосы, „дзе раскідаў свае гады", выходзе, каб разагнаць тугу, бяду і каб уславіць Беларусь. Кажа ён:

„я зораў з сабой набяру
і жменяю сыпну-няйначай —
на славу табе Беларусь."

Гэтак дэкляруе паэт сваю любоў да свайго роднага Краю. А калі бываў ён на чужыне, рваўся да родных ніў, ваколіцаў: —

бо сэрца кліча моліцца,
туды — у родны Край.

Туды, дзе хвалі Нёмана
палошчуць берагі,
дзе бор сасновым гоманам
вясьне сьпявае гімн;

туды, дзе красак зьвіткамі
сьмяецца сенажаць
дзе ў даль кладуцца ніткамі
каля мяжы мяжа;

туды, дзе шчоткай шчыльнаю
ячмень да сонца стаў,
дзе на дарогу пыльную
сплывае сонца сталь.

Я там змагаўся з голадам,
пазнаў там Беларусь,
спаткаў сваю я маладасьць
і ўсходзячу зару.

Гэтых некалькі зваротак характарызуюць творчасьць Іверса, ягоныя паэтыцкія ўзлёты, мастацкасьць, лёгкасьць, плаўнасьць верша, ягоны патрыятызм.

Цяжкое палажэньне вёскі, Беларусі навявае паэту сум, але ён ня плача, а заяўляе:

Шэрай восеньню з песьняй па краю
я пайду аддаць Ёй усё...
Беларусь... Не, ня будзеш ніколі,
паза межамі з торбай хадзіць!...
Сёньня ў даль з-за густых частаколаў
на сінеючу даль паглядзі!...

Ня нам думу горкую думаць
спатыкаючы нашу вясну!...

І хоць „глушыць вецер медныя парывы", хоць „цёмным дымам укрыты кругазор", паэт пяе, пяе на родных загонах, пяе на родным правільным шляху ідучы да сонца.



Анатоль Іверс

Калі-б шукаць падабенства, дык найбліжэйшымі будуць Анатолю Іверсу — Машара і Васілёк, так як Хмары—Танк і Ільяшэвіч. Іверс мае талент. Высьцерагацца трэба яму наўперад набору лішніх слоў, дзеля таго толькі, каб паўставаў верш, каб быў рым і рытм, бо ад гэтага надта блізка да графаманства. Варта было-б Іверсу папрабаваць пісаць і рэчы большыя, а перад усім жадаем яму, каб далей разьвіваў свой талент, свае здольнасьці на выбраным шляху, узбагачваў свае вершы і новай формай, узбагачваў свой слоўнік, каб гарэў зоркай яснай, а песьні ягоныя—каб далей ішлі й плылі над роднымі загонамі!...

Я—к.



## *Песенька*

*Ласкай прыветнаю,*
*казкай чароўнаю*
*Ночка плыла над зямлёй,*
*Гожай красуняй,*
*усеўладнай князёўнаю*
*Села на трон сіні свой.*

*Зоранькі ясныя,*
*быццам дзяўчыначкі,*
*Кружаць наўкол карагод, —*
*Месячык беленькі*
*выпаўз з хмарыначкаў*
*І пакаціўся ў абход.*

*Гэй, ляці, месячык,*
*ў тую краіначку,*
*Стройна дзе Нёман плыве!*
*Глянь праз вакенца —*
*ў тую хаціначку,*
*Дзе мая Люся жыве!*

*Па ўсім пакойчыку,*
*месячык беленькі,*
*Хай разальецца твой сьвет,*
*Ад майго імяні*
*Люсеньцы міленькай*
*Перадай шчыры прывет!*

*Мо' яна збудзіцца,*
*зоранька ясная,*
*Вочкі адчыніць свае,*
*Люсенька, золатка,*
*дзеўчынка красная,*
*Мо' ўспамяне і мяне...*

*Думкай ляту*
*да Цябе я, каханая,*
*Люся, анёлачак мой!...*
*Ласкай прыветнаю,*
*казкай вясьнянаю,*
*Ночка плыве над зямлёй...*

*Сяргей Пяюн*



# Polskaja presa i Biełarusy

**Biełaruski numar „Sygnałów“ z dnia 15.VIII.1939**

Ahułam polskaja presa nie prajaŭlaje zacikaŭleńnia biełaruskaj spravaj, a navat možna skazać, što bajkatuje Biełarusaŭ. Viestki ab Biełarusach u polskich hazetach pajaŭlajucca tolki tady, jak sudziać biełaruskich intelihientaŭ, sialan ci rabotnikaŭ, abo kali ab biełaruskaj prablemie piša zahraničnaja presa. U „narmalnych-ža“ siańniašnich varunkach navat i dla vilenskaje polskaje presy Biełarusy n'a isnujuć, abo nie pavinny isnavać. Pry tym dachodzić časami až da śmiešnaści. Voś napr. było takoje zdareńnie z „Kurjeram Wilenskim,“ na bačynach jakoha hałoŭny jahony redaktar nia tak daŭna pisaŭ, što Biełarusaŭ niama, a paśla praz niekalki dzion raptam čytajem u tym-ža samym „Kur. Wil.“ nadrukavanuju vialikimi litarami viestku, što ŭ Słonimščynie znajšlisia Biełarusy i pad ściaham „Stronnictva Ludovaha“ zajaŭlajuć, što buduć hramić Niemcaŭ i baranić Hdanska, ci štoś padobnaha... Słovam, adnosiny byvajuć časta niepavažnyja j śmiešnyja.

Pry takim amal-što ahulnym nastaŭleńni polskaje presy da Biełarusaŭ nabirajuć asablivaha značeńnia pavažnyja adnosiny da biełaruskaje prablemy šyroka viedamaha polskaha litaraturnaha j hramadzkaha dvutydniovika—časapisu „Sygnały“, jaki vychodzić u Lvovie. Redakcyja hetaha časapisu ŭžo niekalki raz drukavała pavažnyja artykuły ab biełaruskaj litaratury, a ciapier paśviaciła biełaruskaj spravie j kultury cely dvanaccaci-bačynny numar 75 „Sygnałów“ z dnia 15-ha žniŭnia 1939h. U numary hetym znachodzim nastupnyja cikavyja j cennyja artykuły: dr. Stanisłaŭ Hrynkievič — „Ab psychičnaj pastavie Biełarusa,“ ks. Adam Stankievič -„Francišak Skaryna,“ Anton Navina — „Adradženskaja biełaruskaja litaratura“, „Sučasnaja biełaruskaja dramaturgija,“ Ryhor Šyrma — „Biełaruskaja narodnaja pieśnia,“ Jury Putrament — „Maksim Tank i biełaruskaja paezija,“ dr. Jan Stankievič — „Historyja biełaruskaha jazyka“, advakat M. Škiałonak — „Biełaruś u śviatle historjografii“, Franciš Alechnovič—„Pačatki biełaruskaha teatru,“ Uładysłaŭ Drema—1. „Biełaruskaje narodnaje mastactva i 2. „Biełaruskaje mastactva ŭ historyčnaj perspektyvie“, dyr. A. Łuckievič — „Biełaruski Muzej im Iv. Łuckieviča.“ U kancy-ž numaru nadrukavany adzin tolki artykuł na temu sučasnych palityčnych mižnarodnych padziejaŭ. Aprača taho, źmieščana niekalki vieršaŭ biełaruskich paetaŭ: J. Puščy i Maksima Tanka ŭ vielmi dobrym pierakładzie na polskuju movu paeta red. K.A. Javorskaha j viedamaha litaratara J. Kamila Weintrauba. Uvieś numar bahata ilustravany padabiznami biełaruskich paetaŭ, kulturnych dziejačoŭ, a tak-ža źnimkami niekatorych muzejnych biełaruskich eksponataŭ, biełaruskich krajavidaŭ i repradukcyjami abrazoŭ viedamaha biełaruskaha mastaka Piotry Miranoviča.

U ŭstupie da numaru ad redakcyi čytajem, što: „Biełaruski numar „Sygnałów“ jošč probaj da paznańnia spravy tak bliskaha nam (Palakam—red. „Šl. Moł.“) narodu.“

„Nia ŭsie spravy tut abhavorany. Nie pazvoliła na heta pieradusim niastača miesca. U nastupnych numaroch „Sygnałów“ znajducca artykuły, u jakich buduć abhavarvacca aktualnyja spravy palityčnyja j haspadarčyja biełaruskaha narodu.“

Probu „Sygnały“ sapraŭdy zrabili dobruju. Biełaruski numar pad kožnym uzhladam pradstaŭlajecca pavažna j zasłuhoŭvaje na toje, kab hramadzianstva bližej z im paznajomiłasia.

Kupić „Sygnały“ možna ŭ Vilni ŭva ŭsich hazetnych pradaŭcoŭ. Možna tak-ža vypisać „Sygnały“ i z Biełaruskaj Kniharni „Pahonia,“ Wilno, Zavalnaja 1—2. Cana numaru 40 hr., z pierasyłkaj 55hr., zahranicu 60 hr.

* * *

Treba adznačyć, što ŭ miesiacy lipni i žniŭni drukavaŭ cikavy artykuł ab „Pavajennaj biełaruskaj litaratury ŭ Polšču“ i niekatoryja vieršy Tanka j Mašary ŭ pierakładzie K. A. Javorskaha polski varšaŭski tydniovy časapis „Naród i Państwo.“ Aŭtaram artykułu jošč biełaruski litarat Piotr Łastaŭka, katory stała prabyvaje ŭ Varšavie. Padobny jahony artykuł niadaŭna nadrukavaŭ „Ruch Słowiański.“

Artykuł P. Łastaŭki, jak my užo kazali, cikavy j dobra infarmuje polskaje hramadzianstva ab raźvićci bieł. litaratury ŭ Polskim Haspadarstvie, na žal prajšoŭ u im adzin vielmi važny niedahlad. Tak u adnym miescy skazana, što ŭ Vilni žyvie ŭvieś litaraturny biełaruski maładniak, a tolki małaja častka prabyvaje ŭ rodnych vioskach. Faktyčna jošč jakraz naadvarot: usie badaj bieł. paety stała žyvuć na vioscy, a tolki małaja častka i to časova prabyvaje ŭ Vilni. Praŭda, adnak, što Vilnia jošč bieł. litaraturnym i ahułam biełaruskim kulturnym centram u Rečypaspalitaj.

**Z. B.**

**Tarhi.** Ad 19.VIII da 3.IX siol. ŭ Vilni adbyvajucca čarhovyja V h. zv. Paŭnočnyja Tarhi, u časie jakich ad 26 da 28 žniŭnia adbudziecca vystaŭka drobnych i futarkovych źviarat, a ad 1 da 3 vieraśnia tarhi ziołkaŭ. Na tarhi hetyja z viosak arhanizujucca ŭ Vilniu roznyja ekskursii. Voś-ža pažadana, kab Biełarusy adviedvajučy tarhi j Vilniu adviedvali pieradusim biełaruskija redakcyi, kniharni, a tak-ža Biełaruski Muzej.

U m-cy žniŭni sioleta ŭ Pinsku adbyvajucca IV Paleskija Tarhi.

**Torf buduć vyvozić u Ameryku.** Złučanyja Štaty Paŭnočnaj Ameryki apošnim časam pačali bajkatavać Niamieččynu, jak u žyćci kulturnym, tak i ekanamičnym. U suviazi z hetym paŭstała nadzieja, što Zł. Št. Paŭnočn. Ameryki, jakija dasiul vypisvali torf z Niamieččyny, dalej buduć vypisvać jaho z Polšču. Najbolš-ža torfu ŭ hranicach Rečypaspalitaj znachodzicca ŭ našym Krai, tak što naš torf, jaki, jak my ŭžo pisali ŭ „Šl. Moł.“, jošč vielmi cennym, moža trapić až u Ameryku. Na padhatoŭku da vyvazu torfu atrymała ŭžo Vilenskaja Pramysłovaja Pałata ad Ministerstva Handlu j Promysłu 20,000 zł.

**Treba zryvać ćviet z bulby.** Dośledy pakazali, što toj kust, ci kaliva bulby, na jakim byŭ sarvany ćviet, davaŭ bolšy ŭradžaj. A heta dziela taho, što ŭ časie, kali pajaŭlajecca ćviet j nasieńnie, nastupaje da niekatoraj miery zastoj u kružeńni sokaŭ, bo ŭsie soki zužyvajucca na vytvarańnie ćvietu j nasieńnia. Kali-ž ćviet sarviom, dyk tady soki buduć zužyty na tvareńnie bulbinaŭ, a praz heta pavialičycca j ahulny ŭradžaj bulby. Zryvańnie ćvietu — praca nie ciažkaja j apłatnaja, tamu, što možna jaje daručać navat dzieciam.

**Kolki j jakich časapisaŭ vychodzić u Polskim haspadarstvie?** „Mały rocznik statystyczny“ padaje, što ŭ 1937 hodzie vychodziła ŭ Polskim Haspadarstvie 2,692 časapisy, z hetaha—2255 polskich, 125 ukrainskich, 130 žydoŭskich, 8 biełaruskich, 9 rasiejskich, 105 niamieckich i 60 inšych. Jak bačym, biełaruskaja presa pradstaŭlajecca vielmi skromna, ale nia z viny Biełarusaŭ, a dziela taho, što niama naležnych abstavinaŭ dla raźvićcia. Viedama, što ŭłady zusim nie davali dazvołu na vydavańnie biełaruskich časapisaŭ. I tak, z pryčyny niaprychilnych adnosinaŭ Vil. Haradzk. Starastva nie zmahli pajavicca nastupnyja bieł. časapisy: „Narodnaja Krynica“, „Sialanskaja hazeta“, „Zołak.“

Pierasyłka apłačana ryčałtam.



# ШТО ЧУВАЦЬ

— Падзеі на міжнароднай арэне пачынаюць **разыгрывацца што-раз хутчэй.** Як прадсказвалі знатакі, што канец месяца жніўня і верасень прынясуць многа навінаў і рашучых падзеяў, так здаецца й будзе. Некаторыя публіцысты кажуць, што **ўжо настаў рашаючы пэрыяд крызысу. Галоўным пунктам трывогі зьяўляецца Гданск. Барацьба** слоўная і дыплёматычная за гэтае места **між Польшчай і Нямеччынай** з кажным днём **становіцца вастрэйшай.**

Асабліва востра пачалі атакаваць Немцы Палякоў пасьля зьезду польскіх легіёнаў у Кракаве, які адбыўся 6-га жніўня й на якім Маршал Рыдз-Сьміглы сказаў прамову, заяўляючы што гвалт заданы сілай мусіць быць сілай адпёрты, ды што Польшч уважае Гданск за лёгкія свайго гаспадарчага арганізму, зьвязаныя з Польскім Гаспадарствам цэлымі стагодзьдзямі.

Павадыр-жа гітлераўцаў у Гданску Фэрстэр, каторы часта адведвае Гітлера й мае з ім нарады, заяўляе, што **Гданск ужо хутка будзе далучаны да Нямеччыны.** Прэса нямецкая вядучы антыпольскую прапаганду **дамагаецца** ўжо ня толькі Гданску, але Памор'я, Пазнаншчыны й Шлёнску. Пры тым мін. Гэбэльс у газэце „Angriff“ заявіў, што на ўсходзе Эўропы павінны быць зьменены ўсе граніцы ўстаноўленыя Вэрсальскім Трактатам... У Гданску Немцы сарганізавалі цэлую сваю армію, якая мае бараніць Гданск, калі-б наступала на яго польскае войска, якое стаіць там недалёка ў поўнай пагатове і, як пішуць польскія газэты, войска гэта пойдзе на Гданск, калі Немцы захочуць далучыць яго да свайго гаспадарства.

Бачачы гэта, **Англія й Францыя** праз сваіх дыплёматычных прадстаўнікоў паведамілі Бэрлін, што Польшч мае ў справе Гданска запэўненую помач Англіі й Францыі.

Тымчасам **Гітлер вёў нарады з міністрам заграгічных спраў Італіі,** які адведаў Нямеччыну, а так-жа **з камісарам Лігі Народаў у Гданску,** каторы так-жа адведаў Гітлера. Кажуць, што на гэных нарадах рашаліся лёсы Гданска. Пасьля разыйшліся чуткі аб розных міжнародных канфэрэнцыях, на якіх мірным шляхам мела-б быць разьвязаная справа гданская, а як будзе з ёю — яшчэ цяжка згадаць.

— Цяпер ходзяць чуткі, што **Нямеччына** хоча ўтварыць свой пратэктарат над **Мадзяршчынай,** якая аднак на гэта не згаджаецца; у гэтай справе мадзярскі міністр заграгічных спраў адведаў надовячы Гітлера й Мусоліняга.

**— У Гішпаніі** ў нутранай барацьбе генэралаў за ўладу перамаглі „фалянгістыя“, каторыя стаяць за цеснае супрацоўніцтва з Італіяй і Нямеччынай.

— У **Абісыніі** і **Альбаніі** Італьянцы ніяк ня могуць спакойна сядзець, трывожаць іх усьцяж паўстаньні, бунты паняволеных імі народаў. Дзеля таго, быццам, Мусоліні прапануе каралю Ахмэд Зогу вярнуцца ў Альбанію, а Нэгусу Гайле Сэлязія ў Абісінію,—ясна, падпарадкоўваючы іх італьянскай уладзе, —каб успакоілі насельніцтва, а за гэта дастануць яны цёплыя, добра-платныя пасады. Ахмэд Зогу прапанову гэту адкінуў, адказ нэгуса яшчэ няведамы.

— Гэтак званая **малая японска-савецкая вайна ў Азіі** ідзе далей і ёсьць знакі, што можа расшырыцца, хоць на Сахаліне, дзе зьбягаюцца савецкія і японскія інтарэсы, і дзе такжа быў між Японіяй і СССР канфлікт, Японцы пайшлі на ўступкі.

**— Тьентсін —** галоўны трывожны пункт у адносінах Японіі да Англіі, Францыі й Злучаных Штатаў Паўночн. Амэрыкі — заліла вялізарная паводка. Страты аграмадныя. Гіне маса людзей, а японскія жаўнеры, хоць стаяць па грудзі ў вадзе, далей кантралюць граніцаў міжнародных канцэсіяў.

## Найвялікшая сэнсацыя—Немцы й Саветы заключаюць дагавор аб ненападаньні

22.VIII.39, як пярун з неба, абляцела сьвет вестка, што Нямеччына й СССР дайшлі да паразумленьня й 23.VIII.39 падпісваюць дагавор аб узаемным ненападаньні. Сталася гэта тады, калі ваенныя дэлегаты Англі й Францыі сядзелі ў Маскве й вялі перагаворы з савецкімі камандзерамі аб супольным фронце супроць Нямеччыны... Міністр заграгічных спраў Нямеччыны зараз-жа выехаў у Маскву. Дагавор гэты для ўсіх быў неспадзеўкай, узмацняе ён Нямеччыну, і выклікаў яшчэ большае напружаньне ў міжнародных адносінах. Урады Францыі, Англіі, а нават Японіі, якая так-жа заскочана нямецка-савецкім дагаворам, адбываюць нарады. У Грэцыі, Турэччыне, Галяндыі, Англіі йдзе частковая **мабілізацыя.** Кароль Бэльгіі склікае на мірную канфэрэнцыю нэўтральныя гаспадарствы: Данію, Нарвэгію, Швэцыю й Фінляндыю. У Латвіі й Эстоніі так-жа вялікая трывога. Для Гданскай справы найбольш трывожным часам мае быць дзень **25 жніўня,** калі ў Гданск прыедзе нямецкі карабель „Koenigsberg“, або **27 жніўня,** калі Немцы ўрачыста будуць сьвяткаваць 25-я ўгодкі перамогі над Расейцамі пад Таннэнбэргам, ці ўрэшце час **3—9** верасьня, у які адбудзецца кангрэс гітляроўцаў у Норымбэрзе.




**М. Васільку:** Артыкул ахвотна друкуем і просім пісаць часьцей. Прывітаньне!

**З.:** Матарыялы атрымалі, дзякуем, часткова выкарыстываем і просім не забывацца надалей. Прывітаньне!

**Г. Дзям.:** Прысланыя матарыялы да друку, нажаль не падходзяць. Беларускія пліткі М. Забэйды-Суміцкага можаце выпісаць з фірмы: „Uniwersal,“ Wilno, ul. Wielka 9. Цана аднае пліткі 3 зл. Да гэтага дайшла-б яшчэ невялікая аплата за перасылку.

**А. Вяліч.:** Адказ у справе беларускіх плітак, як вышэй. „Шлях Мол.“ высылаем і просім парупіцца аплаціць падпіску.

**Г. Новік:** Атрымалі, адказ будзе пісьмом. Верш слабаваты. Прывітаньне!

**Uł. Anušk—ču:** Vieršy słabavatyja, karespandencyja nia projdzie praz cenzuru, dzieła taho nia možam nadrukavać.

**К. М.:** Матарыялы да друку, нажаль, не падходзяць, вершы слабыя й ня радзім іх Вам зусім пісаць. Аб дэмаралізацыі на вёсцы ў гэтым нумары шырока пішам. Дужа цешымся, што сабіраеце грошы й думаеце купіць сабе беларускую бібліятэчку. Яна Вам многа дасьць карысьці. Прывітаньне!

**П. Сушко:** Матарыялы атрымалі, дзякуем, у меру магчымасьці будзем выкарыстываць. „Шл. Мол.“ высылаецца Вам акуратна. Прывітаньне!

**Andreju Hołasu:** Vieršy atrymali, ale jašče nie razhledzili, bo ich šmat. Zrobim heta krychu paźniej. Duža ciešymsia vašym patryjatyzmam, a za stojkašć —češć Vam i słava!...

**Усім хто прыслаў адрысы** на высылку пробных нумароў „Шл. Мол.“ шчырая падзяка!

*Парупцеся прысланць заказ (5 зл.) на зборнік твораў беларускай паваеннай паэзіі (Анталёгію). Справа гэта пільная! Калі ня маеце ўсіх грашэй самі, то зьбярэце іх спосабам складчыны*

*Заказы прысылайце на адрас рэдакцыі „Ш.М.“ і „Калосься“. Вільня, Завальная 1—2.*

*„Шлях Моладзі“ друкуецца ў Беларускай Друкарні ім. Фр. Скарыны ў Вільні (Завальная вул. 1—2) коштам працы: Я. Багдановіча, Я. Найдзюка і А. Шутовіча.*

**Адрыс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Завальная вуліца № 1—2 (Wilno, Zawalna 1—2).**

„ШЛЯХ МОЛАДЗІ“ выходзіць два разы ў месяц: 5 і 25. Падпіска на год 2 зл. і 50 гр., на паўгода 1 зл. 50 гр., на 3 мес.—75 гр. Цана аднаго экзэмпляра 15 грошаў. — Заграніцу ўдвая даражэй. — Нумар карткі „przekazu rozrachunkowego“ 59.

Wydawca: „Bielpres“. Drukarnia Białoruska im. Franciszka Skaryny — Wilno, ul. Zawalna 1 Redaktor: J. Najdziuk.
Выдавец: „БЕЛПРЭС“. Рэдактар: Я. НАЙДЗЮК.